

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

Цана: Нямеччына: на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; ЗША і Канада: на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. Ангельшчына й Аўстралія: 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. Францыя: 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. Аргентына: 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. Перасылка л[illegible]іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 3 (538) — Нядзеля, 15 студзеня 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15

# Новы год пачынаецца трывожна...

Калі-б прыймаць у іхным даслоўным сэньсе навагоднія выказваньні й пажаданьні дзяржаўных мужоў сьвету, дык запраўды мусілі-б зьнікнуць усякія прычыны да неспакою, няпэўнасьці й трывогі за далейшы лёс сьвету. У іх столькі было запэўніваньняў і абнадзейваньняў, што новы 1961 год пройдзе ў атмасфэры мірных намераў, міжнароднага адпружаньня й супрацоўніцтва, што, здавалася-б, пачынаецца ўзапраўды новая эра ў міжнародных дачыненьнях.

Асабліва шчодрым у сваіх слоўных запэўніваньнях быў, як і заўсёды, Хрушчоў. Гэтак Кэннэды атрымаў ад яго запэўненьне, што Савецкі Саюз гатоў забыцца аб інцыдэньце з амэрыканскім разьведвальным самалётам У-2 з мамэнтам адыходу ад улады старога прэзыдэнта Айзэнгаўэра й што ў будучыні наважаны гаварыць з Амэрыкай толькі аб міры й прыязьні «на новай, разумовай базе». Макміляну Хрушчоў прыпомніў аб плодных размовах зь ім у Маскве ў мінулым годзе й заахвоціў яго супольна з Масквой працаваць і далей над замацаваньнем эўрапэйскай бясьпечнасьці. Дэ Голь атрымаў новы напамінак адкінуць усё тое, што перашкаджае бясьпечнасьці й раззбраеньню. Навет пад адрысам канцлера Адэнаўэра, пасьля падпісаньня новага савецка-нямецкага гандлёвага дагавору, былі выказаныя запэўніваньні, што Савецкі Саюз жадае найбольш прыязных дачыненьняў з Заходняй Нямеччынай, якія ў падобнай форме ўжо даўно ня выказваліся. Камуністычны гэрэтык Ціта быў названы Хрушчовам старым прыяцелем, а індыйскі Нэру верным таварышам у змаганьні за мір.

Аднак запраўднасьць паказалася зусім іншай. На ейным фоне выступілі ўва ўсей сваей галіце прапагандовы хвальш і грубы цынізм усіх запэўніваньняў і пажаданьняў Хрушчова.

Аказалася, што Дэклярацыя камуністычных партыяў сьвету, прынятая ў выніку трохтыднёвай камуністычнай канфэрэнцыі ў Маскве ў лістападзе мінулага году, праводзіцца ў жыцьцё з усёй плянавасьцяй і зялезнай пасьлядоўнасьцяй. Праўда, Дэклярацыя цьвердзіць, што хуткая й няўхільная перамога камунізму над капіталізмам у цэлым сьвеце будзе дасягнутая мірным шляхам, але ў ёй выказана столькі ненавісьці й няпрымірнасьці ў дачыненьні да некамуністычнай сыстэмы, што ўся слоўная дэклямацыя аб міры зьяўляецца да глыбіні перапоўненая ваяўнічым духам.

У поўнай згодзе з духам гэтае Дэклярацыі разгараюцца ўсе тыя вогнішчы міжнароднага напружаньня, якія існавалі ў мінулым годзе й вызначалі асноўныя вехі разьвіцьця ўзаемадачыненьняў між камуністычным Усходам і свабодным сьветам. На парозе новага 1961 году ўсе гэтыя пункты міжнароднага напружаньня ня толькі не злагодзіліся, што магло-б пацьвярджаць навагоднія пажаданьні Хрушчова й адкрываць новую эру ў міжнародным жыцьці, але, наадварот, раптоўна завайстрыліся да нябывалых разьмераў.

Пачнём ад падзеяў на Кубе, якія, як ведама, разьвіваюцца згодна рэжысуры й плянаваньня Масквы. Маскоўская марыянэтка кубанскі прэм'ер Фідэль Кастро сваімі новымі авантурамі напасьледак вывяў з усякае цярплівасьці Амэрыку, што апошняя 4-га студзеня была змушаная сарваць дыпляматычныя й кансулярныя дачыненьні з Кубай і заждала, каб усе амэрыканскія грамадзяне, якіх на Кубе налічваецца да 2 000 чалавек, пакінулі безадкладна гэты востраў. Незалежна ад гэтага кроку, Амэрыка цьвёрда наважаная ўтрымоўваць і надалей сваю морскую ваенную базу ў Гвантанаме на Кубе, і гэта не зважаючы на тое, што Фідэль Кастро перад гэтым часта пагражаў зьліквідаваньнем гэтае базы.

Парваньне дыпляматычных дачыненьняў з Кубай лягічна мусіла-б распачаць новы мамэнт у дачыненьнях Амэрыкі да гэтай краіны, калі Амэрыка была-б змушаная перастаць, як дагэтуль, лішня цацкацца з капрысамі Фідэль Кастро й праявіць патрэбную сілу. Не падлягае сумлеву, што Амэрыка ня можа скапітуляваць перад выразнымі камуністычнымі правакацыямі на Кубе, якая, як ведама, у савецкіх плянах зьяўляецца беспасярэднім перадмосьцем дзеля наступу супраць усей лацінскай Амэрыкі й такім-жа беспасярэднім пунктам дзеля мілітарнае загрозы самой тэрыторыі Задзіночаных Штатаў.

Наступным важным аб'ектам камуністычнай антызаходняй афэнзывы зьяўляецца й надалей Конго, дзе прыхільнікі арыштаванага экспрэм'ера Люмумбы, адкрыта падтрымліванага Саветамі, разьдзьмухваюць крывавую дамашнюю вайну. Пасьля таго, калі ў Конго акцыя Задзіночаных Нацыяў і высланых імі войскаў не дала спадзяваных вынікаў, нутраны хаос у гэтай наймамодшай незалежнай дзяржаве Афрыкі яшчэ болей паглыбіўся.

Вельмі характэрна, што ў Конго, як і ў іншых краінах Афрыкі, побач із савецкай інфільтрацыяй, мае месца таксама інфільтрацыя камуністычнага Кітаю. У парыскай газэце «Ле Монд» нядаўна паявіўся цікавы ў гэтым сэньсе артыкул аб кітайскай пэнэтрацыі ў Афрыцы, аб стварэньні пры ўрадзе ў Пэкіне спэцыяльнага камітэту для афрыканскіх справаў, аб дэструкцыйнай дзейнасьці амбасадаў камуністычнага Кітаю ў Мароку, эгіпскім Судане, Гвінэі й Гане, аб высыланьні кітайскіх камуністычных місіяў у Афрыку.

Ня мае істотнага значаньня, ці на тэрыторыі Афрыкі адбываецца рывалізацыйнае спаборніцтва за ўплывы між Савецкім Саюзам і камуністычным Кітаем, ці маем справу з узгодненай акцыяй двух камуністычных колёсаў. Важным астаецца бясспрэчны факт, што ў сваіх канчальных мэтах і Масква, і Пэкін вядуць аднолькавую камуністычную падрыўную дзейнасьць, у роўнай меры камуністычную паводля свайго зьместу й накіраваньня, і ў роўнай меры варожую ў дачыненьні да Захаду.

У сувязі з гэтай акцыяй ангельскі тыднёвік «Эканаміст» нядаўна пісаў: «Заходнія ўрады ўжо могуць пахаваць адну ўяву й пачаць асвайвацца з новай гістарычнай эрай. Гэтай уявай была непераможная надзея, што наступіць разрыў між двума камуністычнымі партнэрамі. Тут ня месца, каб прыпамінаць усе тыя вузлы, якія трымаюць іх разам. Хопіць паўтарыць, што Пэкін і Маскву розьняць адно мэтады, але не палітычныя мэты. Дзеля гэтага дарма чапляцца за надзею, што наступіць канфлікт між «эўрапэйскай» Расе[illegible] (г. зн. Савецкім Саюзам) і азіяцкім Кітаем».

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Сёе-тое

Майстры хвальшу й абману маюць набітую руку. Некалі нацыянальнага прарока Янку Купалу прымусілі пісаць паэтычныя эрзацы, што ў зьмесьце пярэчылі ўсяму асноўнаму, створанаму ім раней. Абы толькі прыласкаць, абы запрэгчы ў ярмо гаротны беларускі народ. Спэцы крывадушнасьці зрабілі тое самае і із аўтарам «Сымона Музыкі» й «Новае Зямлі». Адно ў беларускай гісторыі й літаратуры Купала й Колас зь перад часу абвешчаньня кароткатрывалай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ніколі ня сыйдуцца з Купалам і Коласам пасьля канца другой дэкады бягучага стагодзьдзя. У той час, калі волаты слова змушаныя былі маўчаць, гадаючы будучыню, народ усьведаміў сваю сілу й узяўся за зброю. Цэлыя сэрыі супрацьбальшавіцкіх паўстаньняў, на чале із Слуцкім, не давалі чырвонай Маскве супакою. І калі крамлёўскім прыслужнікам лягчэй удалося справіцца з адзінкамі, то народны збройны рух, што й сяньня яшчэ жыве ў памяці падсавецкіх прыгоньнікаў, не дае ім супакою. Як вымазаць зь людзкой памяці тое, што сяньня мае шчэ жывых сьветак? Вось пытаньне. Гэта ня тое, што перарабляць-перакручываць гісторыю старой беларускай мінуўшчыны.

І вось намагаюцца-стараюцца. Жыўцом з карэньнямі хочуць вырваць. І жывыя сьветкі змушаныя аплёўвацьбясчэсьціць усё сьвятое, што зрабілі для дабра народнага ў мінулым, таптаць у балота свае найбольш шляхотныя пачуцьці, самабічавацца й ганьбіцца без канца.

Ужо раней Антон Сокал Кутылоўскі, калішні камандзер Слуцкае брыгады, пісаў (ці за яго пісалі) ў дадатку да энкагэбаўскага лістка «Голас радзімы» пад назовам «У імя праўды». Але, відаць гэна быў адно пачатак. Калі Сокал-Кутылоўскі сяньня жыве й піша, то хіба адно таму, каб і далей не пазбавіцца сьціплага пайка бальшавіцкага, зрабаванага ад зморанага народу, хлеба.

І які-ж трагічны лёс гэтага чалавека! Будуць вунь змушаць аплёўваць і ганьбіць сябе аж да канца жыцьця. Мы, жывучыя ў вольным сьвеце, ня можам на Сокал-Кутылоўскага ані злавацца, ані зьняважаць яго за тое, што робіць. Можам яму адно спачуваць як хрысьціяне й як Беларусы.

І вось некаторыя з прыкладаў поўнага запярэчаньня гістарычнае праўды: «Слуцкая беларуская брыгада, якой я потым камандаваў, была створаная белапалякамі».

«Слуцкае «паўстаньне», аб якім так многа гавораць і пішуць за мяжой, не пачыналася й не канчалася», бо... людзі не пайшлі за намі, а чакалі Чырвоную Армію». (Глядзі «Голас Радзімы» № 82 (467).

Так, чакалі, але із зброяй у руках...

Усё-ж кінуліся нам у вочы дзьве, на наш погляд, ключовыя фразы ў артыкуле «Жыцьцё пераконвае».

«Можа, калі-б я быў далёка ад Бацькаўшчыны, — кажа Сокал-Кутылоўскі — як і тыя, зь кім я доўгі час ішоў па адной дарозе, я працягваў-бы заставацца ў варожай да савецкай улады групоўцы».

Але: «Няхай тых, хто будзе чытаць гэты артыкул, не зьдзіўляе, чаму я сяньня зьмяніў свой погляд...»

Зусім ясна.

Але ранейшае й цяперашняе сябеаплёўваньне, відаць, адно цьвяточкі, бо ягадкі яшчэ будуць.

«У сваіх успамінах, якія неўзабаве вы зможаце прачытаць, я пішу аб гэтым усім больш падрабязна», — кажа Сокал-Кутылоўскі.

Значыцца самабічаваньне й апаганьваньне сьветлай бачыны народнай гісторыі будзе прадаўжацца хто ведае яшчэ колькі.

Як ужо раней мы прыгадалі, чалавеку спачуваем, а што бальшавіком моцна баліць факт, што Слуцкае Паўстаньне жыве ў народнай памяці, гэтым можам адно цешыцца.

☆

І, не адбягаючы ад справаў, зьвязаных із Слуцкім Паўстаньнем, ці ня час спытацца, што сталася з добрым намерам выданьня альманаху з твораў беларускай літаратуры аб Слуцкім Паўстаньні, плянаваным Згуртаваньнем Беларускай Моладзі ў Амэрыцы? Маніліся выдаць яго да 40-й гадавіны Паўстаньня. Гадавіна ўжо мінула. Маркі, спэцыяльна выданыя для здабыцьця сяродкаў на выданьне, распрадаваліся.

Хто й што ў гэтым кірунку робіць і калі зробіць? Цікава было-б даведацца.

☆

Разам із «Звяздой» трапіла да нас і г. зв. «Афіцыяльная табліца выйграшаў грашова-рэчавай латарэі 1960 года Беларускай ССР».

Нас зацікавілі грашовыя цэны некаторых выйграшаў і хочам падзяліцца імі з чытачамі. Вось яны: Швейная машына нажная Аршанскага заводу (ня думайце, што электрычная, о не! — М. К-р) — 1 000 руб., радыё «Рэкорд» 495 руб., машына пральная «СМ-1,5» — 750 руб., халадзільнік «Саратаў» з трансфарматарам — 1 560 руб., машына пральная «Рыга» або «Тула» — 900 руб., тэлевізар «Беларусь» — 3 200 руб.

Вы, беларускія Амэрыканцы, што зарабляеце па 400 ці 500 даляраў у месяц і купляеце тэлевізары за 250 даляраў, а то й таней, перастаньце наракаць на дзяцей, што сочаць за каўбойскімі праграмамі. Часамі пападзе й што добрае ўбачыць. Вунь-жа людзі на тэлевізар чатары ці пяць месяцаў мусяць ішачыць. Ды бяда невялікая. Няшмат-жа такіх, што каля сталіцы ці ў ваколіцах яе жывуць.

Цэнаў прадуктаў першай неабходнасьці й вопраткі ў «афіцыяльнай табліцы» няма, на вялікі жаль. Але відаць, як людзі люксусова могуць жыць. Прыгадваецца нам адзін сьвятой памяці сябра, які некалі, прыехаўшы ў вадну краіну й убачыўшы крамы, перапоўненыя дабром, сказаў: «Божачкі-ж мае, але-ж усяго-ўсенькага, абы толькі грошы!»

Так, абы толькі грошы.

Што вы спыталіся? Колькі аўта каштуе? Ёсьць, ёсьць і такое ў выйгрышы: «Волга» і «Масквіч» цана адна — 40 000 рубчыкаў. Солана? Палічыце, колькі гэта трэба працаваць, зарабляючы па 600 ці 800 рублёў на месяц.

Зацемка на маргінэсе (ці як той адзін прахвэсар казаў — на баку): Некалі Хрушчоў на дваццаць год замарозіў зварот савецкім грамадзянам капіталу, ўложанага на дзяржаўныя пазычкі. Там замарозілі, а тутака вось «грашова-рэчавых» і іншых выцягальна-высосваючых замаражваць і ня думаюць. Што ваша, тое наша, значыцца. Ды цягніце й сьсіце. Да пары. Былі вунь і раней цягуны-сасуны, а сяньня й мокранькага па іх не асталося, бо «да пары збан ваду носіць».

**Міхась Козыр**

# Беларусь калёніяй Масквы

Ужо каторы год старшыні савету міністраў і іншыя партыйныя кіраўнікі БССР ставілі на сэсіях Вярхоўнага савету СССР дамаганьні аб павялічэньні асыгнаваньняў на патрэбы рэспублікі. Каторы год гэтак званыя дэпутаты БССР ў Вярхоўны савет СССР даказваюць рэнтабільнасьць і вялікія выгады асушэньня балотаў і забалочаных земляў на Беларусі. Каторы раз яны дамагаюцца прызначэньня дзеля гэтых мэтаў адпаведных фінансавых сяродкаў, гатовых мэльярацыйных машынаў ды будаўніцтва такіх машынаў у рэспубліцы. Каторы раз закранаецца праблема павялічэньня асыгнаваньняў на прысьпешаньне будаўніцтва ў Беларусі заводаў штучных мінэральных угнаеньняў на базе выкрытых вялізарных залежаў калійных соляў і на розныя іншыя патрэбы.

Гэтыя дамаганьні, хоць і ў меншых маштабах за свайго папярэдніка, ставіў і на апошняй сэсіі Вярхоўнага савету СССР цяперашні старшыня савету міністраў БССР Кісялёў. Аднак усе гэтыя доказы і просьбы і ў гэтым годзе засталіся «голасам у пустыні», калі ня лічыць чатырох мільёнаў дадатковых асыгнаваньняў, улучаных у сёлетні бюджэт БССР, што раўняецца прыблізна тэй суме, якой Кісялёў дамагаўся на капітальны рамонт жыльлёвага фонду і для ўпарадкаваньня гарадоў і сёлаў БССР.

Ня былі таксама ўзятыя пад увагу і дамаганьні старшыні Дзяржпляну Малініна аб павялічэньні сяродкаў для мэханізацыі працы ў жывёлагадоўлі і для навукова-дасьледчай працы ў галіне сельскай гаспадаркі.

Праблема асушэньня Палескай нізіны і іншых забалочаных раёнаў БССР прыцягвае да сябе асаблівую ўвагу. Яшчэ перад абвешчаньнем хрушчоўскай кампаніі асваеньня заўральскай цаліны, пытаньне асушэньня забалочаных земляў Беларусі было ўзьнятае зь вялізарным прапагандовым шумам. Аб ходзе гэтай справы, больш або менш аптымістычна ці пэсымістычна, гаварылася й пісалася і на працягу наступных год. Аднак, як паведаміў Кісялёў на апошняй сэсіі Вярхоўнага савету ў Маскве, справа гэтая амаль ня зрушылася зь месца; 7 мільёнаў гэктараў прыгодных (пасьля асушэньня) да сельскагаспадарчага карыстаньня, ураджайных земляў далей ляжаць забалочанымі.

Чаму? Адказ просты: маскоўскія органы пляніраваньня адмаўляюцца прызначаць для гэтай мэты неабходных фінансавых і матарыяльных сяродкаў, ня гледзячы навет на тое, што партыйныя кіраўнікі ў БССР бязупынна даказваюць у Маскве рэнтабільнасьць гэтага мерапрыемства.

З пункту гледжаньня гаспадарчых інтарэсаў Беларусі праблема мэльярацыі забалочаных земляў мае бязумоўна вялікае значэньне, асабліва з увагі на занапад цяперашняй скалектывізаванай сельскай гаспадаркі БССР. З другога боку, пераданьне ў сельскагаспадарчае карыстаньне сямі мільёнаў дадатковых земляў выгаднае і з усесаюзнага пункту гледжаньня, і ў свой час і ў Маскве на гэтае мерапрыемства ўскладалі вялікія надзеі.

Аднак, гаспадарчыя інтарэсы, асабліва інтарэсы паасобных нерасейскіх рэспублікаў — гэта адно, а палітыка партыі, як ведама — зусім што іншае. З мэтай ажыцьцяўленьня свае ўтопіі, абумоўленай хвараблівымі ілюзыямі ваеннага, каляньяльнага і імпэрыялістычнага характару, Хрушчоў з сваім кіраўніцтвам, не зважаючы на некалькі разоў пацьверджаныя правалы, далей кідае на казахстанскую і сібірскую цаліну вялізарныя грашовыя, матарыяльныя і людзкія рэзэрвы. У гэтай д'ябальскай задуме бальшавікі, як выглядае, мяркуюць, побач зь іншымі праблемамі, а магчыма ў першую чаргу, разьвязаць пагрозьлівую для іх нацыянальную праблему. Напрошваецца проста пытаньне, ці ў гэтым пляне маскоўскія дыктатары ня прызначылі заўральскім пустыням ролю могільніка для бальшыні нерасейскіх нацыяў. Вось адна з апошніх вестак, атрыманая з БССР. 13-га сьнежаня магілёўская абласная радыястанцыя паведамляла:

«Аддзел па перасяленьні і арганізацыі набору рабочых Магілёўскага аблвыканкому прыступіў да афармленьня дакумантаў на перасяленьне сем'яў у Казахскую ССР. Перасяленьне будзе праводзіцца ў першым квартале 1961 году ў Кокчэтаўскую, Паўночна-Казахстанскую, Усходня-Казахстанскую і Карагандзінскую вобласьці.»

Трэба адзначыць, што такія паведамленьні рэдка сустракаюцца ў перадачах цэнтральных радыястанцыяў або ў цэнтральнай рэспубліканскай і ўсесаюзнай прэсе. Гэта, хіба, таму, што гэтыя сяродкі савецкай «інфармацыі» даступныя за межамі СССР, а шырокі сьвет аб гэтых бесьперапынных масавых перасяленьнях ведаць не павінен.

Тое, што ўся бальшавіцкая палітыка накіраваная супраць жыцьцёвых нацыянальных і гаспадарчых інтарэсаў нерасейскіх народаў, наглядна дэманструе і сёлетняе бюджэтнае разьмеркаваньне капіталаўкладаў. Для Беларусі, напрыклад, народнагаспадарчы плян і

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Новы год пачынаецца трывожна...

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

Найбольш аднак грозным і небясьпечным зьяўляецца трэйцяе запальнае вогнішча ў сьвеце — Ляос.

Як вядома, Ляос падобна як і Камбоджа, быў пастановамі Жэнэўскай канфэрэнцыі 1954 году, якая закончыла доўга трывалую індакітайскую вайну, знэўтралізаваны. Абедзьве дзяржавы ўрачыста тады забавязаліся не ўваходзіць у ніякія ваенныя саюзы й ня мець ніякіх ваенных абаронных пунктаў на сваей тэрыторыі, пакуль «ня будзе загрожаная іхная бясьпечнасьць».

У выніку ўспомненай Жэнэўскай канфэрэнцыі, зь якой Амэрыка ня была задаволеная, уважаючы, што такая «нэўтралізацыя» Ляосу зробіць яго лёгкім аб'ектам камуністычнай экспансіі, з амэрыканскай ініцыятывы паўстаў тады Абаронны пакт Паўдзённа-Ўсходняй Азіі (СЭАТО). Гэты пакт, сябрамі якога зьяўляюцца Амэрыка, Вялікабрытанія, Францыя, Аўстралія, Новазэляндыя, Сыям, Філіпіны й Пакістан, абыймае й тэрыторыю Ляосу й Камбоджы, хоць апошнія, як дзяржавы «нэўтральныя» фармальна да пакту не належаць. Але збройныя сілы дзяржаваў СЭАТО могуць увайсьці на тэрыторыю Ляосу й Камбоджы, калі ўрады апошніх пра гэта папросяць.

Ад заканчэньня індакітайскай вайны ў 1954 годзе астаўся ў Ляосе моцны камуністычны рух Патэт-Ляо, стаўшыся гняздом камуністычнай інфільтрацыі звонку. Ведзеная ад даўжэйшага часу мясцовая збройная паўстанцкая акцыя камуністых апошнім часам пачала быць збройна ўспамаганая з боку камуністычнага паўночнага Ветнаму, камуністычнага Кітаю й Савецкага Саюзу. Склічанае ўжо некалькі разоў паседжаньне Рады СЭАТО гэтыя весткі аб супольнай інтэрвэнцыі звонку з боку паўночнага Ветнаму, камуністычнага Кітаю й Савецкага Саюзу пацьвердзіла дакумэнтальна. Як бачым, дык і тут чырвоны Кітай рука ў руку йдзе із Савецкім Саюзам.

Супраць ваеннага ўмешваньня ў нутраныя справы Ляосу войстра зарэагавала Амэрыка і ўзмоцніла ваенную гатоўнасьць 7-ай амэрыканскай флёты, якая цяпер знаходзіцца на паўдзённа-кітайскіх водах. Затое пазыцыя Францыі й асабліва Вялікабрытаніі выразна вычэкваючая й мэдыятарская. Ня гледзячы аднак на адсутнасьць згоды ў гэтым пытаньні сярод заходніх вялікадзяржаваў, Амэрыка выразна заявіла аб сваей наважанасьці ставіць супраціў камуністычнай агрэсіі ў Ляосе, калі яна ня будзе спыненая, навет сілаю зброі. Калі-ж гэтая амэрыканская пагроза будзе ажыцьцёўленая, дык на тэрыторыі Ляосу дойдзе да другой Карэі, аб чым сяньня ўжо гаворыцца адкрыта.

Як бачым, палітычная атмасфэра ў сьвеце настолькі наладаваная, што ўжо цяпер маюць месца грозныя выбухі. Дык не аб міжнародным адпружаньні й замацаваньні міру можа быць мова, але аб далейшым завайстрэньні сытуацыі й аб тым, дзе і якія новыя запальныя пункты сьветавага пажару могуць узьнікнуць з волі Масквы й чырвонага Пэкіну. Мова можа быць таксама аб тым, ці Захад патрапіць зьлякалізаваць і затушыць гэты пажар, ці дасьць магчымасьць яму разгарацца.

Няма патрэбы й даводзіць, што далейшае разьвіцьцё падзеяў галоўным чынам будзе залежыць ад Амэрыкі — ад зьместу й кірунку амэрыканскай замежнай палітыкі пры новым прэзыдэньце.

**Язэп Каранеўскі**

# „Інжынеры людзкіх душ“ — партыйныя бюракраты

У савецкім часапісе «Социалистическая законность» (№ 11 за 1960 год) зьявіўся артыкул М. Мамонтава «Пісьменьнік, ганарар і спадчыньнікі», які кідае даволі сьвятла на ўмовы жыцьця й прывілеяваны стан савецкіх пісьменьнікаў, драматургаў, крытыкаў і г. д. Ведама, ня ўсе савецкія пісьменьнікі могуць дайсьці да таго матарыяльнага дабрабыту, як ён апісаны ў названым артыкуле. Гэта залежыць у першую чаргу ад здабыцьця «сымпатыі й адсюль ад «папулярнасьці» твораў, аднак і найдалейшы такі «партыйны сымпатык» пры гэтых савецкіх умовах можа стацца запраўдным мільянэрам.

У артыкуле М. Мамонтава справа ідзе аб ганарарах савецкіх пісьменьнікаў, але ведама, што савецкія «клясыкі» карыстаюцца й другімі дзяржаўнымі ўзнагародамі, як сталінскімі ці цяпер ленінскімі прэміямі да 200.000 руб., дзяржаўнымі дачамі, ды навет некалькімі адначасна, машынамі, санаторыямі й г. д. Як сьцьвярджае М. Мамонтаў, савецкі пісьменьнік, якому пашчасьлівілася выдаць той ці іншы твор, адразу атрымоўвае за яго ганарар (у залежнасьці ад тыражу), незалежна ад распрадажы гэтага твору. Ён можа ляжаць на паліцах складу дзесяткі гадоў, ня паступіўшы навет у кнігарні. Падобны ганарар ён атрымоўвае пры паўторным ці патройным перавыданьні гэтага свайго твору, хоць апошні застаўся неперапрацаваным.

Да аўтараў прыраўнаныя таксама перакладчыкі мастацкай літаратуры й інсцэніроўшчыкі. Аўтарскія правы на ганарар спадчынныя. Пасьля сьмерці аўтара на працягу 15 гадоў пры перавыданьні кнігаў ганарар атрымоўвае ягоная сям'я ці зусім трэйцяя асоба. Наколькі высокі аўтарскі ганарар савецкіх пісьменьнікаў, можна зрабіць выснаў з наступных прыкладаў. Жонка ці ўдава пісьменьніка Т., апрача буйнае сумы ў банку, атрымала пасьля сьмерці мужа за перавыданьне ягоных літаратурных твораў больш мільёна рублёў. Нейкая Н. Канстантынава атрымала за пераклад п'есы Бернарда Шоў «Пігмальён» больш мільёна рублёў. Н. Волкаў здабыў за інсцэніроўку «Анны Карэнінай» «такую вялікую суму, якая навет ня сьнілася й дзесяцём першаклясным драматургам». Сцэнарыстам Жэлябускаму «толькі за адзін год выплачана за інсцэніроўку «Овада» такая сума, пра якую не магла думаць навет сама аўтарка раману», і г. д.

Апрача ганарару, савецкія пісьменьнікі карыстаюцца іншымі палёгкамі. Пра дачы й прэміі ўспаміналася вышэй. Як зазначае М. Мамонтаў, ім дапамагае так званы Спэцыяльны Літаратурны Фонд. Апошні выручае пісьменьнікаў, калі яны апынуцца ў часовых матарыяльных цяжкасьцях, аплачвае ўсім лячэньне й санаторыі, тыя ці іншыя «камандзіроўкі.». Гэты фонд мае сваіх 15 творчых дамоў, і на збудаваньне новых у бягучай сямігодцы адпушчана яшчэ 60 мільёнаў рублёў. Пры старасьці ці пакалечаньні пісьменьнікі пераходзяць на дзяржаўныя пэнсыі. Стаж працы лічыцца ад апублікаваньня першага хоць і ня значнага мастацкага твору, ды ён ня ліквідуецца й у тым выпадку, калі аўтар нічога больш ня выціснуў пасьля гэтага. Савецкія «клясыкі» й іх спадчыньнікі маюць так званую «пэрсанальную», г. зн. спэцыяльную пэнсыю.

Выходзячы з гэтага, М. Мамонтаў прапануе зрэвізаваць дасюлешнюю практыку ў выплачваньні ганарараў, асабліва правы на гэтыя ганарары спадкаемцаў пісьменьнікаў. «Литературная газета» з 26. 11. 1960 г. на гэта зарэагавала вельмі войстра, узяўшы пад апеку савецкіх пісьменьнікаў і асабліва так званых «клясыкаў».

Які можна зрабіць з гэтага выснаў? Хоць СССР лічыцца краінай «роўных» і «раўнапраўных», тым больш — краінай «сацыялістычнай», тут, як паказвае хоцьбы гэты выпадак зь пісьменьнікамі, пануе найбольш рэакцыйная сыстэма падкупніцтва, дыскрымінацыйнага апякунства, хабарніцтва і падхалімства. Прывілеі савецкіх пісьменьнікаў зьвязаныя з партыйнымі намаганьнямі выкарыстаць апошніх у эксплуатацыі народу й нацыяў. Згодна партыі й Масквы, савецкі пісьменьнік пакліканы дапамагаць «выхоўваць» народ і нацыі ў паслухмянасьці першым, ахвяроўваць сваім матарыяльным дабрабытам, фізычнай сілай, пэрсанальнымі ці нацыянальнымі інтарэсамі ў імя-ж тае партыі й Масквы. Апошняе ня толькі азначае ступень прывілеяванасьці савецкага пісьменьніка, але й мастацкую якасьць ягоных твораў. Чым больш савецкі пісьменьнік ідзе на паваду партыі, тым больш ён упрывілеяваны, чым больш у ягоным творы партыйнай прапаганды, тым больш ён якасны з мастацкага пункту гледжаньня. Адным словам, савецкага пісьменьніка можна лічыць партыйным бюракратам, партыйным урадаўцам, які ўзнагароджваецца згодна сваіх падхалімскіх заслугаў. Паза гэтым пісьменьнік у Савецкім Саюзе зьнікае, так як шлях для яго выяўленьня назаўсёды тут закрыты.

Пісьменьнік у СССР ня можа выдаваць сваіх твораў без партыйнае апрабацыі. У тым выпадку, калі гэты твор знаходзіць падтрымку ў партыі, ён адразу-ж ідзе ў друк і выдаецца тыражом у дзесяткі тысячаў, а навет і ў сотні тысячаў. На кніжным рынку зьяўляецца нудны твор, а ў кішэні аўтара добрая куча грошай. Плюс да гэтага за «выдатны» твор ён атрымае яшчэ ленінскую прэмію, іншыя матарыяльныя ўзнагароды й падвышэньне ў кіраўнічым партыйным апараце. Як прыклад можна прывесьці хоць-бы «выдатны» твор «Лицом к лицу с Америкой» групы журналістых на чале зь зяцем Хрушчова А. Аджубэем, якія праводзілі Хрушчова ў ягонай паездцы ў Задзіночаныя Штаты Амэрыкі й па сваім звароце наважылі парадаваць савецкае грамадзтва гэтай «мастацкай» навінкай. Апошні памфлет быў адбіты тыражом у сотні тысячаў, ды яшчэ да гэтага атрымаў ленінскую прэмію. Зусім няважна, што ён быў заказаны самым Хрушчовам ды сам Хрушчоў узнагародзіў яго ленінскай прэміяй, але ў кішэні Аджубэя й ягоных паплечнікаў зьявіліся банкноты на мільёны рублёў.

Ведама, падобная практыка прыводзіць ня толькі да дэгэнэрацыі савецкіх пісьменьнікаў, але й да дыскрымінацыі між імі. У першым выпадку мы часьцей і часьцей сустракаем такіх пісьменьнікаў, якія поўнасьцяй парываюць з сваім сумленьнем, з сваей пакліканасьцяй і становяцца паслухмяным аўтаматам у руках партыі. Для такіх больш ня існуе ні мастацтва, ні чалавек, ні людзкая мараль, але толькі собскі матарыяльны дабрабыт, высокае становішча й як найбольшая куча грошай.

У другім выпадку дыскрымінацыя праводзіцца між больш сумленнымі й таленавітымі пісьменьнікамі, з аднаго боку, і пісьменьнікамі зь першае рукі, з другога; між рэспубліканскімі й расейскімі пісьменьнікамі. Больш сумленных пісьменьнікаў творы застаюцца пераважна ў манускрыптах, не пабачыўшы сьвету. З тае прычыны, што расейскае прыймаецца ў Савецкім Саюзе за «сацыялістычнае», апошняе найбольш прапагуецца й вітаецца, хоць-бы яно было й нацыянальна-шавіністычнага характару. Творы-ж рэспубліканскіх пісьменьнікаў на нацыянальную тэматыку засуджаныя на сьмерць. У выніку ў нацыянальных рэспубліках творы нацыянальных пісьменьнікаў, тым больш напісаныя на роднай мове, выходзяць пераважна малым тыражом, у тысячу, 2,5 тысячы, найбольш 10-ці тысячным тыражом. Адсюль і меншыя ганарары для рэспубліканскіх пісьменьнікаў. У гэтых дачыненьнях лепш маюцца пісьменьнікі цэнтру, г. зн. Масквы ці Ленінграду, нагул расейскія пісьменьнікі, спасярод якіх найбольш і пераважна знаходзяцца й так званыя «клясыкі» савецкай мастацкай літаратуры, гэтая запраўдная савецкая бюракратычная арыстакратыя спасярод савецкіх пісьменьнікаў.

Як-бы там ня было, але савецкі пісьменьнік, тым больш партыйны гадунец і падхалім, пастаўлены ў далёка няроўнае палажэньне зь сьмяротным савецкім грамадзянінам. Тым больш гэтая розьніца выдзяляецца на фоне твораў савецкага пісьменьніка, у якіх дзеля собскага матарыяльнага дабрабыту й «славы» ідэялізуецца жабрацкі стан гэтага грамадзяніна, трэбуецца яшчэ большай ахвярнасьці ў імя гэтых ненажорлівых собскіх гонаў і гонаў партыі.

**П. Залужны**

# Беларусь калёніяй Масквы

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

бюджэт накідаюць далейшае «разьвіцьцё магутнай аўтамабільнай прамысловасьці». Тымчасам, гэтая прамысловасьць працуе выключна на прывознай сыравіне, ейная прадукцыя ў бальшыні вывозіцца ізноў за межы рэспублікі, найчасьцей на тую-ж цаліну ды розныя заўральскія новабудоўлі, а апошнім часам, у форме падарункаў і з мэтай палітычнай экспансіі камунізму — аж на Кубу.

Якая-ж пры гэтым роля тых, што сяньня фармальна стаяць быццам пры ўладзе ў БССР і заданьне якіх мусіла-б палягаць у вабароне гаспадарчых і нацыянальных правоў і інтарэсаў ачольванай імі рэспублікі? Яны-ж на ўвесь сьвет крычаць аб тым, што яны быццам кіраўнікі сувэрэннай і незалежнай дзяржавы!..

Іхнюю, гэтак званую «незалежнасьць» і «сувэрэннасьць» найлепш ілюструюць словы старшыні савету міністраў БССР (які гучны тытул!) Кісялёва, які, зьвяртаючыся да апошняй сэсіі Вярхоўнага савету СССР, гаварыў: «мы **просім** выдзяляць дадатковыя сродкі...» Вось у гэтым **просім** і палягае ўся сутнасьць справы. Яны могуць толькі «прасіць», да таго ня ў кажнай справе і, як мы пераканаліся, навет іхныя просьбы найчасьцей застаюцца пустым гукам. Аднак яны называюць сябе міністрамі незалежнай рэспублікі, склікаюць свой «незалежны» «парлямант і, як паведаміла прэса й радыё СССР 30 сьнежаня, Вярхоўны савет БССР і гэтым разам аднагалосна прыняў законы аб «дзяржаўным» пляне разьвіцьця народнай гаспадаркі і бюджэце БССР на 1961 год. Але на якое ліха гэтая камэдыя на дзяржаўным узроўні, калі ўсё ўжо было даўно і канчальна пастаноўлена ў Маскве і органы БССР ня маюць ніякай іншай магчымасьці, як толькі прыняць?

Магчыма было-б навет лішнім ставіць пытаньне, ці запратэставаў калі-небудзь урад гэтак званай «сувэрэннай» і «незалежнай» БССР супраць таго, што ў гэтак званай «дружнай і раўнапраўнай сям'і савецкіх народаў», ад пачатку існаваньня бальшавіцкай улады аж да гэтага году, БССР атрымлівае на душу насельніцтва на 30 з гакам працэнтаў капіталаўкладаў менш, чымся РСФСР. Гэта тычыцца ня толькі Беларусі, а ўсіх нерасейскіх рэспублікаў.

Прыняўшы за выходны пункт палажэньне, што грамадзяне ўсіх падсавецкіх рэспублікаў больш-менш аднолькава натужваюць сілы, ствараючы матарыяльныя багацьці, якія ідуць у распараджэньне савецкага капіталіста-дзяржавы, элемэнтарная справядлівасьць вымагае, каб прынамся тая частка награмаджаных такім чынам фінансавых рэсурсаў, якая застаецца пасьля задаваленьня прыватных патрэбаў і палітычных амбіцыяў партыйнай бюракратыі і інвэстуецца ў народную гаспадарку ды выдаткоўваецца на розныя сацыяльныя і культурныя мерапрыемствы, была раўнамерна разьмяркоўваная паміж усімі рэспублікамі і ейнымі жыхарамі. Інакш кажучы, калі ўжо рабуюць, дык каб усіх аднолькава... Але дзе там!

Таму, апрача вялізарных і цяжка вымяральных фізычных і маральных зьдзекаў, нерасейскія народы Савецкага Саюзу маюць права і абавязак занесьці на рахунак маскоўскага каляніялізму тую астранамічную суму, якую складаюць мільярды штогоду недадаваных ім фінансавых рэсурсаў, і дамагацца сплаты з працэнтамі.

Мы верым у канчальны трыумф справядлівасьці ў сьвеце і што такі дзень разрахункаў наступіць!

**А. Залескі**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

# Творы Алеся Гаруна

## Матчын дар

(Працяг)

### НА СЬМЕРЦЬ

Памёр ты, татачка, спакоіўся навекі!
На вочы сумныя насунуліся векі, —
Прыцісьнула іх сьмерць мацней за чужынца.
І вось айца
Ня стала, родны мой, ад сьмерці тваяе...

О сьмерць бязь літасьці, ратунак ты і кара!
Нашто-ж яму, як тая чорна хмара,
Заслонай вечнаю ты стала прад вачмі?
Скажы, сьлязьмі
Нашто пасквапілася ты сям'і мае?

Ах, родны, блізкі мой! Гаротны
і бяздольны.
Жыцьцё сваё, той шлях няўдатны
і нявольны
Із болем цяжкім ты у сэрцы перабыў
і свой загубіў
Апошні стогн, адзін, у чужэнсьцьве,
у цішы.

Бясшчасны тата мой! Усім адна дарога...
І торганьні разлукі ня так катуюць строга,
Як тое, любы мой, што ў ноч, апошню ноч,
У цябе із воч
Сьляза скацілася аб скрыўджанай душы.

Дратуе сэрца мне, цьвікі ў мазгі ўбівае,
З грудзей і боль і стогны здабывае
Загадка страшная: ў гадзіны ўсіх гадзін
Ты там адзін,
Маўляў бясплеменьнік, усім чужы,
сканаў...

Адно бліжэйшае, адно хаця-б стварэньне,
Хаця-б няроднае, хаця каб на здарэньне,
Прасіў Вялікага к табе хутчэй паслаць,
Каб зь ім аддаць
Сваім апошні свой, гарачы свой прывет.

Ня меў Ён літасьці, ня даў табе спакою,
Ў самоце, ў больніцы, зялезнаю рукою
Ён сэрца кволага спыніў нятрыўкі рух
І бедны дух
Прымусіў твой пакінуць гэты сьвет.

Казаў: «маліся» ты. За што-ж, каму
маліцца?
Ці-ж можна праўду нам знайсьці,
калі маніцца,
У неба чорнае ўляпіўшыся вачмі?
З журбой, зь сьлязьмі
Нясьці туды сваю найбольшую з надзей?

Пабач, гаротны мой: ці-ж ты ня моцна
верыў?
Сьвятою праўдаю ці-ж кажны крок ня
мерыў?
Сьязьмі крывавымі ня плакаў? Не прасіў?
Ня ўсё знасіў,
Запомнены празь неба, нязнаны празь
людзей?

Ці-ж меў ты, родны мой, хоць дзень
на адпачынак?
З гароты, зь беднасьці ці знаў
перапачынак
За веру гэтую? Ці-ж не балеў ты заўсягды,
Ня сох зь бяды
З душою прэснаю, адкрытаю да ўсіх?

Салодкіх мала хвіль, а горкіх нат багата
Памеў за жыцьце ты, мой родны,
бедны тата.
А можа горкую табе і я хвілінку даў,
Не спагадаў
Табе калі?.. Цяпер за гэта выбачай.

Няхай пуховаю табе зямелька будзе,
Няхай спакой табе твой Пан прысудзе.
Я некалі прыйду пад той убогі крыж,
Дзе ты ляжыш,
І там наплачуся. А покуль што — бывай!

* * *

Думкі-дыяманты, краскі жыцьця,
Песьні — вас гэтак люблю!
З вамі салодкіх гадзін забыцьця
Часам і я пазнаю.

Жыцьце-няволя ў чужой старане,
Працы надмернай яром
Зараз зьнікаюць, бы ў госьці ка мяне
Вы паказаліся ў дом.

Слухайце-ж, думкі: як прыйдзе мой скон,
У хатку зьляцеце ка мне, —
Хай прадсьмяротны суцішыцца стогн,
Сэрца на момант спачне.

Хай засьпяваю, як лебедзь, калі
Прыйдзе гадзіна яму, —
Ўзьнёсшыся ў неба ад маці-зямлі,
Рыне ў вадвечную цьму;

Хай засьпяваю аб сьне залатым,
Веку людзкога радзтва,
Роўнасьці, волі і брацтва, — аб тым
Веку красы, хараства.

Можа, пачуўшы прадсконны мой сьпеў,
Сьціхла-б на сьвеце вайна...
З радасным духам-бы я паляцеў
У царства каханьня, відна.

